ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№11 (44) лістапад 2014 год
CATHOLICNEWS.BY



# Моцныя духам

## Рэпартаж з Навагрудка

**У 2010 годзе распачаўся беатыфікацыйны працэс кс. Аляксандра Зянкевіча, які паходзіць з парафіі ў Дунілавічах, што ў Віцебскай дыяцэзіі. Кс. Аляксандр пасля сваёй вучобы ў Пінскай семінарыі быў скіраваны на працу ў Навагрудак, дзе выконваў абавязкі капелана сясцёр-назарэтанак. Пазней праявіў сябе як таленавіты выкладчык і выхавальнік моладзі ў Вроцлаўскай дыяцэзіі (Польшча). Каб больш даведацца пра служэнне нашага земляка і сясцёр-назарэтанак, "Каталіцкі Веснік" выправіўся ў першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Навагрудак сустрэў нас холадам і вільготнасцю. Таямнічыя абрысы касцёлаў і вежаў замка паволі выступалі з палону туману, калі мы праязджалі па вулачках горада, накіроўваючыся ў кляштар сясцёр-назарэтанак.

На парозе нас сустрэла ветлівай усмешкай с. Лаўра Шукеловіч і адразу запрасіла на гарбату. Я не стрымаўся, каб не спытацца: "Сястра Лаўра, вашае служэнне звязана перш за ўсё з касцёлам і рэлігіяй, але ці адчуваеце вы нейкі ўплыў гісторыі тут, ці мае для вас значэнне, што вы працуеце менавіта ў Навагрудку, а не ў іншым месцы?"

***Працяг чытайце на стар. 3***



# Успамінаючы Апостала еднасці

**Памяць царкоўнага і грамадскага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Язафата Кунцэвіча ўшанавалі грэка-каталікі ў Полацку. Ён быў Полацкім арцыбіскупам, умацоўваў грэка-каталіцтва ў гэтым краі і лічыўся прыхільнікам еднасці Заходняй і Усходняй Цэркваў. На свята ў храм вялебнай Параскевы Полацкай з'ехаліся госці з Мінска, Віцебска, Глыбокага і іншых гарадоў Беларусі, а таксама з Расіі.**

■ **Таццяна Смоткіна**, *тэкст;* **Маргарыта Юрык**, *фота*

Мерапрыемства пачалося з агульнага малебна, у час якога ў спевах і малітвах вернікі ўзгадвалі пра пакутніка. Язафат Кунцэвіч быў жорстка забіты за сваю дзейнасць раз'юшаным натоўпам падчас Віцебскага паўстання ў 1623 годзе. Рэліквіі беларускага пакутніка захоўваюцца ў саборы святога Пятра ў Рыме. Папа Рымскі Ян Павел II назваў пакутніка Язафата Кунцэвіча "Апосталам еднасці". Ён такама з'яўляецца нябесным апекуном Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

І хоць некаторыя людзі асобу Язафата Кунцэвіча ўспрымаюць неадназначна, айцец Аляксандр Шаўцоў – пробашч Полацкай грэка-каталіцкай парафіі – не пабаяўся сказаць, што як асоба Язафат мае вялікае значэнне не толькі для Каталіцкага Касцёла, але і для ўсяго свету.

***Працяг чытайце на стар. 4***





# Гутарка пра мову, жэсты і Божую любоў

**У Гродзенскай дыяцэзіі ў парафіі Вярэйкі Ваўкавыскага дэканата працуе кс. Валерый Лісоўскі. Акрамя звычайнай святарскай паслугі ён ужо 15 гадоў вядзе душпастырскую дзейнасць сярод глухіх людзей. "Каталіцкі Веснік" завітаў у госці да гэтага знакамітага святара і дзеліцца са сваімі чытачамі пачутым і пабачаным у Вярэйках.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

**– Кс. Валерый, як даўно Вы займаецеся такой незвычайнай працай?**

– З 1998-га года. У той час я навучаўся ў Духоўнай семінарыі ў Гродне. Будучы клерыкам*, у сваёй вёсцы заўважыў хворую жанчыну. Яна была глухая. І я задумаўся: чаму яна не можа прымаць сакрамантаў? Чаму яе ніхто не падрыхтаваў да гэтага? Так і з'явілася ідэя працаваць сярод глухіх людзей. Я вывучыў жэставую мову і, ужо будучы студэнтам, праводзіў заняткі па рэлігіі для глухіх.

***Працяг чытайце на стар. 4***

Каталіцкі ВЕСНІК №11(44) лістапад 2014 г.

# “Разбуры турмы муры”

*Разбуры турмы муры!*
*Прагнеш свабоды — то бяры!*
*Мур хутка рухне, рухне, рухне —*
*І пахавае свет стары!*

(***Ян Качмарскі***, *“Муры”*)

**Святкаванне 25-годдзя падзення Берлінскага муру – вось падзея, якая звярнула на сябе ўвагу многіх СМІ ва ўсім свеце ў апошнія дні. Гэта падзея стала прадметам яшчэ большай рэфлексіі, задумы, асабліва пасля таго, як сам Папа Рымскі Францішак выказаўся з гэтай нагоды. Чым жа быў гэты Берлінскі мур, навошта быў узведзены ды навошта зруйнаваны?**

**а. Андрэй Буйніч**



Фрагменты Берлінскага муру на выстаўцы ў Патсдаме.

## Узвядзенне Берлінскага муру

Як вынік Другой сусветнай вайны Германія ды яе сталіца Берлін былі падзеленыя саюзнікамі на чатыры акупацыйныя зоны. Усходняя частка краіны разам з усходняй часткай Берліна была аддадзена СССР, заходняя частка была падзелена на амерыканскую, брытанскую і французскую зоны. 24 чэрвеня 1948 года ў адказ на рашэнне стварыць заходнюю германскую дзяржаву савецкія войскі пачынаюць блакаду Заходняга Берліна. А ў 1949 г. ствараецца ГДР. Гэта быў першы крызіс у шматгадовай г.зв. “халоднай вайне” паміж СССР і “капіталістычным” Захадам. Муру ў Берліне яшчэ тады не было…

Збудаванне Берлінскага муру распачалося 13 жніўня 1961 г. Спачатку гэта былі, галоўным чынам, загароды з дроту. Узброеныя сілы ГДР раскаталі калючы дрот на даўжыню 46 км. Пазней сталі ўзводзіць сцяну. У сярэдзіне верасня 1961 г. яе працягласць складала ўжо 3 км. На працягу доўгіх гадоў мур пастаянна ўмацоўваўся: спачатку яго ўзвялі з блокаў, потым – з бетонных пліт, пазней – з серыйна вырабленых сегментаў. «Антыфашысцкая ахоўная сцяна» («Antifaschistische Schutzwall») – вось як яе тады называлі – складалася з бетоннага плоту двухметровай вышыні працягласцю 45,1 км. Падчас будаўніцтва муру гарадскія камунікацыі, лініі метро і іншыя транспартныя шляхі, якія злучалі ўсходнюю і заходнюю часткі Берліна, былі заблакаваныя.

Для вялікай часткі жыхароў Берліна мур сапраўды стаў нечаканасцю. Шмат хто ў тагачасным грамадстве высмейваў чуткі пра магчымасць узвядзення фізічнай сцяны, якая падзеліць на дзве часткі ўвесь горад. Аднак тое, што здавалася немажлівым, сталася фактам на працягу двух выхадных дзён. Раніцай у панядзелак 14 жніўня 1961 года адна старая на станцыі метро “Фрыдрыхштрасэ” падышла да паліцэйскага і нервова запытала, калі ўрэшце пойдзе цягнік на Заходні Берлін. Паліцэйскі адказаў: “Ніколі цягнік туды болей не пойдзе, бабуля, – усё! Вы цяпер у пастцы” (пар. http://www.svoboda.org/content/article/415142.html, даступна на 11.10.2014).

## Зруйнаванне падзелу Еўропы і свету

Берлінскі мур, вядома, быў больш чым проста фізічнай перашкодай у камунікацыі людзей. Берлінскі мур – гэта сімвал нянавісці адных людзей і пакутаў іншых. Толькі пры спробе ўцячы праз мур у Заходні Берлін вайскоўцамі ГДР была забіта 231 асоба. Перш чым паўстаюць муры з блокаў і бетону, найперш паўстаюць муры непаразумення, варожасці і нянавісці ў сэрцах людзей. Менавіта такі мур узводзіла ў сэрцах і розумах людзей бязбожная савецкая ўлада, такія муры ўзводзяць некаторыя і сучасныя прапагандысты.

9 лістапада сёлета святы айцец Францішак у сваім звароце пасля паўдзённай малітвы “Анёл Гасподні” прыгадаў, што 9 лістапада 1989 года быў зруйнаваны Берлінскі мур, які “доўгі час падзяляў горад папалам і быў сімвалам ідэалагічнага падзелу Еўропы і ўсяго свету”.

– *Крах адбыўся раптоўна, але гэта стала магчымым дзякуючы доўгай і цяжкай працы многіх людзей, якія маліліся за гэта, змагаліся і пакутавалі, а некаторыя склалі ахвяры з жыцця,* – сказаў Францішак. – *Асаблівую ролю адыгрывае сярод іх святы Папа Рымскі Ян Павел II,* – падкрэсліў ён.

*Толькі пры спробе ўцячы праз мур у Заходні Берлін вайскоўцамі ГДР была забіта 231 асоба.*

Славянскі Папа заўжды займаў вельмі ясную пазіцыю ў дачыненні да камунізму. Як узгадвае кардынал Жан-Луі Таран з нагоды гадавіны падзення Берлінскага муру, “Ян Павел II заўсёды казаў, што камуністычная сістэма была падарванай знутры і што аднойчы яна павінна была разваліцца. Але ніхто не мог сабе ўявіць, што гэта можа адбыцца так хутка і тым больш без кровапраліцця” (Цыт. паводле http://bit.ly/1xu6t7m, даступна на 11.10.2014).

Было б наіўным, аднак, думаць, што з падзеннем Берлінскага муру знікла і камуністычная ідэалогія. Перад намі, пакаленнем Яна Паўла II, стаіць выклік: мы пакліканы да таго, каб змагацца з праявамі камунізму ў сучасным свеце. Як гэта зрабіць, які план барацьбы? На такое пытанне адказвае сам святы айцец Францішак ва ўзгаданай прамове: “Дзе ёсць муры, там ёсць таксама зачыненыя сэрцы. Мы павінны будаваць масты, а не муры!”

Будзем жа руйнаваць муры нянавісці і будаваць масты да людскіх сэрцаў любоўю Хрыста, праўдай, якая вызваляе, спачуваннем і радыкальнай вернасцю Евангеллю – гэта адзіны шлях, каб перамагчы зло!



# ЯК ПРАВІЛЬНА ПА-БЕЛАРУСКУ: “СВЯТЫ ПРАСТОЛ” ЦІ “СВЯТЫ ПАСАД”?

**Практыка паказвае, што абодва назоўнікі – *прастол* і *пасад* – выкарыстоўваюцца сёння ў беларускай літаратурнай мове са значэннем “месца знаходжання іерарха Каталіцкага Касцёла” або “высокі чатырохвугольны стол пасярод алтара, за якім святар адпраўляе набажэнствы”. Аднак не выпадае лічыць ужыванне названых лексем у аднолькавай ступені мэтазгодным з пункту гледжання культуры мовы, з боку адметнасці беларускай лексічнай сістэмы.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Слова ***прастол*** не фіксавалі нашы слоўнікі 20-ых гадоў XX стагоддзя. Напрыклад, у “Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку” Вацлава Ластоўскага (Коўна, 1924) чытаем: “Престол – пасад. Царскі, каралеўскі, князеўскі, біскупскі пасад” (с. 543). І “Беларуска-расійскі слоўнік” М. Байкова і С. Некрашэвіча (Менск, 1925) падае “Пасад – престол” (с. 224). Як бачым, у першай чвэрці XX стагоддзя пазычанне з рускай мовы – *прастол* – фактычна ў нас не выкарыстоўвалася. Толькі ў сярэдзіне стагоддзя пасля пачатку татальнай русіфікацыі беларускай лексікі ў слоўніках замацоўваюць згаданую кальку з рускай мовы. Вось, скажам, “Русско-белорусский словарь” пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі (Мінск, 1953) фіксуе: “Престол. 1. Трон; 2. *церк.* Прастол”. Менавіта калькаваны назоўнік выкарыстоўвае газета “Звязда”, перадаючы фрагмент гутаркі кіраўніка дзяржавы з Апостальскім нунцыем: *Ведаючы, што вы паедзеце ў Святы Прастол, я хачу праз вас перадаць самыя цёплыя і добрыя словы... Папу Бенядзікту XVI* (Звязда, 11.04.12, с.1).

Варта яшчэ звярнуць увагу на некаторыя вытворныя словы, што зафіксаваныя ў нашых лексікаграфічных крыніцах. У прыватнасці, у “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” (Т. 4, Мінск, 1980) падаюцца як нарматыўныя назоўнікі *“прастоланаследдзе”* і *“прастоланаследнік”* (с. 370). Сёння названыя словаформы наўрад ці варта ўжываць. Як адзначае праф. П. Сцяцко, “з самой дэфініцыі відаць штучнасць гэтага рээстравага слова *прастоланаследдзе* ў беларускай мове” (Павел Сцяцко. Культура мовы. Мінск, 2002, с. 232). Але і акадэмічны “Слоўнік беларускай мовы” (Мінск, 2012) таксама фіксуе назоўнікі *“прастол, прастоланаследдзе, прастоланаследнік”* (с. 642). Тут, хутчэй, спрацоўвае своеасаблівая сіла інерцыі, а не аб'ектыўны моўны чыннік.

Разам з тым у апошнія некалькі гадоў у нашай мове значна часцей стала выкарыстоўвацца лексема **пасад**. Гэта нульсуфіксальнае ўтварэнне ад дзеяслова “пасадзіць”, што адлюстроўвае прадуктыўны характар дэрывацыі. Дарэчы, гэты назоўнік нярэдка фіксуецца і ў мастацкіх тэкстах. Бадай, кожны памятае славутыя купалаўскія радкі: *“Занімай, Беларусь маладая мая, / Свой пачэсны **пасад** між народамі!”* У канфесійным дыскурсе слова **пасад** сёння таксама дамінуе. Прывядзём два прыклады з сайта Ватыканскага радыё – radiovaticano.va: *Пантыфік прызначыў новых членаў Адміністрацыі маёмасці Святога **Пасаду**; Святы **Пасад** заклікаў вызнаўцаў сікхізму супрацоўнічаць у спагадлівым служэнні* (10 лістапада 2014 г.).

Такім чынам, у нашай мове трэба выкарыстоўваць адметны беларускі назоўнік **пасад**, а не русізм **прастол**. І словазлучэнне Святы **Пасад** – гэта сапраўды па-беларуску, у адрозненне ад калькаванага з рускай мовы спалучэння “Святы Прастол”.

**Пошта рэдакцыі**

# Дзеля ксяндза ці дзеля Бога?

**Пахвалёны Езус Хрыстус!** Шчыра вітаю ўсіх чытачоў і супрацоўнікаў рэдакцыі. Хачу падзяліцца з Вамі сваім перажываннем, сваім роздумам.

Не так даўно я стала выпадковай сведкай размовы паміж дзвюма жанчынамі. Было зразумела, што ў парафію адной з іх накіраваны новы ксёндз, і ён ужо прыехаў, меў першую Імшу. І вось гэта жанчына кажа: «Цяпер я буду хадзіць у касцёл, бо я добра ведаю, адкуль гэты ксёндз, ведаю яго бацькоў. Паважаныя людзі!»

Іх размова працягвалася далей, а я не магла адагнаць ад сябе думку: дык, аказваецца, людзі прыходзяць у касцёл дзеля ксяндза? А як жа Пан Бог? На якім месцы Ён? Спачатку ідзём дзеля ксяндза, потым, каб пабачыцца са знаёмай або знаёмым, потым, каб падзяліцца з кім-небудзь сваімі, напрыклад, прыемнымі падзеямі, і г. д. А калі ж увага будзе звернута на Яго, Адзінага, Хто нябачны, але прысутны сярод нас, на Збаўцу Езуса? Не хачу думаць, што такія абыякавыя, паказушныя ўсе. Я ўсё ж упэўнена, што большасць вернікаў разумеюць, куды яны прыходзяць, да Каго.

Прайшло ўжо колькі часу, але я зноў і зноў вяртаюся да гэтага роздуму. Задаю сама сабе гэтае пытанне: а ці заўсёды я на Імшы з Панам Богам, ці не “ўцякаюць” мае думкі куды-небудзь? Шукаю адказу і часам ён атрымліваецца ў вершаванай форме. Вынікі вось такіх маіх перажыванняў я прапаную Вашай увазе.

***З павагай, А.***

## Малітва

Бясконцага сусвету Валадар!
Перад табой схіляю нізка галаў.
Маіх душы і цела гаспадар,
Ты толькі выслухай, нічога болей.

Любой дарогай, дзе б я ні ішла,
Веру, Ты заўсёды побач крочыш.
Стамілася. Спынілася. Злягла.
І Ты са мной стаміўся, недзе збочыў.

Хвіліна адпачынку, цішыні.
Далёка ў сэрцы кволаю крынічкай
Праб'юцца словы: “Божа, барані,
Валюся ў бездань, нібы тая знічка”.

Пальюцца следам: дай і памажы,
Словы-просьбы, словы-пакаянні…
На гэтым пераломе, на мяжы
Маёй рукі не адпусці, о Пане!

# Моцныя духам

## Рэпартаж з Навагрудка

*Працяг са стар. 1*

"Ведаеце, – сказала с. Лаўра, – я наогул лічу, што сталіца Беларусі павінна вярнуцца сюды, у Навагрудак. Паглядзіце, якая прыгажосць вакол! Стары горад, касцёлы, замкавая гара. Я сама вельмі люблю гісторыю, таму Навагрудак для мяне – больш чым проста месца працы".

### "Пані ў габітах"

– А калі прыехалі сёстры-назарэтанкі ў Навагрудак?

– Першыя дзве сястры прыехалі сюды па запрашэнні біскупа Зыгмунта Лазінскага ў верасні ў 1929 годзе. (Навагрудак у той час уваходзіў у склад Пінскай дыяцэзіі. – В.М.). Цікава, што адразу яны былі прынятыя не вельмі прыхільна. Сёстрам даводзілася чуць кпіны ў свой адрас з боку насельніцтва, маўляў, прыехалі тут "пані ў габітах"*. Іх не хацеў прызнаць нават мэр Навагрудка. І цікавы факт: прытулак сёстрам дала адна беларуская сям'я.

Сястра Лаўра праводзіць нас па кляштары і паказвае гасцінныя пакоі. "Раней тут сёстры арганізавалі школу. Навучалася 120 дзетак розных веравызнанняў. Вучылі як багатых, так і тых, хто зусім не меў грошай. Такая адукацыйная дзейнасць найпрост звязана з нашым харызматам: працаваць дзеля сем'яў.

– Ведаю, што падчас ІІ Сусветнай вайны нацысты расстралялі 11 сясцёр. Як гэта адбылося?

– Так, сапраўды, гэта трагічная старонка ў гісторыі нашага ордэна. Трагічная, але і слаўная, таму што сёстры з'яўляюцца мучаніцамі і прызнаны Касцёлам блаславёнымі. У сакавіку 2015 года будзем святкаваць 15-цігоддзе з дня іх беатыфікацыі. Хадземце ў наш музей, там захаваліся рэчы сясцёр.

Пакуль мы ідзём у будынак музея, сястра Лаўра працягвае аповед: "Сёстры былі з розных рэгіёнаў тагачаснай Польшчы. Некаторыя з іх паходзілі з Заходняй Беларусі. Гэта с. Стэла (паходзіла з Клецкай парафіі) і с. Барамея (паходзіла з хутара Верцялішкі каля Гродна). У 1943 годзе немцы арыштавалі 120 чалавек, каторым пагражала смяротнае пакаранне. Сёстры маліліся, каб гэтыя людзі былі ўратаваныя, нават калі б ім самім давялося ахвяраваць жыццём. Яны таксама маліліся, каб кс. Аляксандр Зянкевіч, іх капелан, не загінуў, таму што яго паслуга была найбольш патрэбная людзям. І Бог прыняў іх ахвяру. Частка арыштантаў была выпушчана, а рэшта выслана на працу ў Германію. Сясцёр немцы расстралялі ў нядзелю 1 жніўня 1943 года ў лесе за 5 км ад Навагрудка. Засталася жывая толькі с. Малгажата, якая мела дзяжурства ў шпіталі ў гэтую ноч і пазбегнула расстрэлу".

### Сон пра чырвоную сукенку

Сястра Лаўра паказвае на сцяну, дзе вісяць партрэты сясцёр і гаворыць: "А вось гэта с. Канута. Яе пакліканне да манастыра было асаблівым. Яна ўжо была заручана з адным хлопцам, але аднойчы прысніла сон. Голас казаў: "Не выходзь замуж за Станіслава. Твой нарачоны чакае цябе ў Гродне, там адбудзецца твой шлюб. На шлюб атрымаеш чырвоную сукенку". Сястра паехала ў Чэнстахову разам са сваёй маці, дзе малілася, каб распазнаць Божую волю. Пасля малітвы азірнулася і ўбачыла манахінь. Гэта і былі сёстры-назарэтанкі. Такім чынам яна апынулася ў ордэне, а пачатковую фармацыю прайшла якраз у Гродне. Для многіх, і для яе ў тым ліку, было незразумелым, пры чым тут чырвоная сукенка. Аднак усё стала ясна, калі праводзілі эксгумацыю расстраляных сясцёр. Сястра Канута ў магіле не ляжала, а сядзела, нахіліўшыся над іншымі сёстрамі. Куля не забіла яе адразу. Сястру толькі цяжка паранілі. А ўвесь габіт быў чырвоны ад крыві...

### Навагрудская Фара

Праз некалькі хвілін ідзём у Фарны касцёл. Менавіта ў ім захоўваюцца парэшткі мучаніц з Навагрудка. "Драўляную святыню тут збудаваў яшчэ вялікі князь Вітаўт у XIV ст. Цікава, што яна была збудаваная на месцы паганскага капішча. Сённяшні Фарны касцёл – гэта ўжо будынак з XVIII ст.", – кажа наш экскурсавод с. Лаўра. Уваходзім унутр. "Паглядзіце на скляпенне, – працягвае руку ўверх сястра. – Да прыезду сясцёр-назарэтанак у Навагрудак скляпенне было моцна пашкоджана, і касцёл знаходзіўся ў жудасным стане, раслі бярозы на даху".

– Чаму касцёл быў у такім выглядзе? – пытаюся.

– Гэта ўсё праз французскія войскі ў 1812 годзе. Яны не цырымоніліся з нашай спадчынай. У святыні зрабілі склад. Але, як бачыце, сёстрам-назарэтанкам удалося адбудаваць касцёл. Яны шмат пісалі лістоў да багатых людзей, збіралі сродкі і пакрысе рабілі рамонт.

У закрыстыі с. Лаўра кажа: "Тут у савецкія часы жыла дванаццатая сястра, якая засталася жывой. Сястра Малгажата Банась. Немцы ўпарта яе шукалі, але не знайшлі. Дапамог адзін лекар, які яе прыватную дакументацыю перанёс у архіў памерлых. Яна не выехала з Навагрудка і аж да смерці апекавалася магілай сясцёр-мучаніц. Працавала пры касцёле як прыбіральшчыца, пякла аплаткі, праводзіла патаемна катэхізацыю". Дарэчы, камуніканты для Св. Імшы і аплаткі выпякаюць сёстры і сёння.

Напрыканцы нашай экскурсіі мы наведалі спецыяльнае памяшканне – аплаткарню, дзе падрабязна пазнаёміліся з цікавым і працаёмкім працэсам. Рэпартаж пра гэта з'явіцца ў снежаньскім нумары Весніка.

Кс. Аляксандр Зянкевіч пазбегнуў пакарання ад рук нацыстаў і прысвяціў сваё жыццё Касцёлу ў Вроцлаўскай дыяцэзіі. Яго сучаснікі кажуць, што ён быў выхавальнікам тысяч маладых хлопцаў і дзяўчат. Дар жыцця, які ксёндз Аляксандр атрымаў праз ахвяру сясцёр-назарэтанак, ахвяраваў іншым, прысвяціўшы сябе дарэшты людзям.

А Навагрудак сёння стаў мэтай пілігрымак. Хтосьці хоча акунуцца ў глыбіню вякоў, шпацыруючы па замкавай гары, хтосьці шукае Міцкевічавага натхнення ў навакольных пейзажах, а камусьці хочацца стаць больш моцным духам. Як сёстры-мучаніцы, як кс. Аляксандр Зянкевіч, як сястра Малгажата Банась.

*габіт – манаскае адзенне



Кляштар сясцёр-назарэтанак у Навагрудку

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Лія Мацюшонак** (в. Прошкава, Глыбоцкі р-н), **парафіяне з Варапаева**, **Марыя Матус** (Валожын), **Марыя Шкорнік** (Паставы), **Галіна Глушкевіч** (в. Ваўкалаты, Докшыцкі р-н), **Соф'я Машара** (Шаркаўшчына), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Алена Ларыёнава** (Віцебск), **Малгажата Бервячонак** (в. Варанцы, Глыбоцкі р-н), **Леанід Грыбач** (Гомель), **Марыя Андрыш** (в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н), **Святлана Падгайская** (Паставы), **Тэрэса Парфяновіч** (Браслаў), **Даната Пачкоўская** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Антон Парфяновіч** (Браслаў), **Аліцыя** (Паставы), **Яніна Дулінец** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Жадаем усім Божага блаславлення!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення Св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю Св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 000 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе Св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |

# Гутарка пра мову, жэсты і Божую любоў



*Працяг са стар. 1*

**– Раскажыце больш падрабязна пра жэставую мову.**

– Жэставая мова (не блытаць з мовай жэстаў, гэта розныя паняцці) распрацаваная для людзей, якія не маюць слыху або вельмі кепска чуюць. Колькасць жэстаў набліжаецца да трох тысяч. Але гэта не адзіная складанасць. Справа ў тым, што адзін жэст можа перадаваць 5 або нават 7 паняццяў. І вось тут патрэбныя вопыт і прафесіяналізм, каб добра зразумець суразмоўцу. Вядома, адразу вывучыць столькі жэстаў немагчыма. У асноўным для нармальнай камунікацыі дастаткова ведаць 500-600 жэстаў. Такімі ведамі можна авалодаць за 2-3 месяцы інтэнсіўнай падрыхтоўкі.

**– Я чуў, што жэставая мова ў розных краінах розная, гэта праўда?**

– Так, сапраўды. Ёсць, напрыклад, нямецкая і французская. У Беларусі мы карыстаемся рускай жэставай мовай. Падчас вучобы і практыкі ў Польшчы мне давялося авалодаць яшчэ і польскай. Былі спробы стварыць міжнародную мову кшталту эсперанта. Яе назвалі жэстуна. Аднак, на маю думку, яе чакае лёс таго ж эсперанта. Яна не запатрабаваная.

***Беларуская жэставая мова нават калі і з'явіцца, будзе мёртвай***

**– А што наконт беларускай жэставай мовы?**

– Беларуская жэставая мова рапрацоўваецца ў Мінску ва ўніверсітэце імя Максіма Танка. Але гэта ўсё ідзе вельмі павольна. Ну, і трэба прызнаць, што беларуская жэставая мова на сённяшні дзень нават калі і з'явіцца, будзе мёртвай. Ёй не будуць карыстацца глухія людзі.

**– Адкуль такая ўпэўненасць?**

– Разумееце, у спецыяльных школах, дзе даюць адукацыю глухім людзям, наогул няма такога прадмета – "беларуская мова". Вучні проста не ведаюць, як на ёй чытаць, не ведаюць значэння беларускіх слоў. Глухі чалавек не ўмее чытаць у нашым разуменні, так, як чытаем мы. У школе ён проста на памяць вывучае, як выглядае адно ці іншае слова. Другі момант. Настаўнікі ставяць націск праз увагу да вуснаў. Глухі чалавек павінен даць сабе раду ў грамадскім жыцці, дзе большасць людзей не ведае жэставай мовы. Таму ён павінен навучыцца чытаць па вуснах. А хто ў нас гаворыць па-беларуску на вуліцах? Мала хто. Таму беларуская жэставая мова – гэта пакуль што ўнікальны навуковы праект і не больш за тое.

**– Я чуў, што Вы не спыніліся на Гродне і, каб дапамагчы людзям, наведваеце розныя беларускія гарады.**

– Раз на месяц бываю з паслугай у Брэсце. Нейкі час ездзіў у Мінск. Цяпер там мясцовы святар адпраўляе Св. Імшу для глухіх. Быў таксама ў Віцебскай дыяцэзіі, у Докшыцах, каб дапамагчы падрыхтаваць дзяўчыну да Першай Святой Камуніі. Адлегласць не праблема. Сярод глухіх людзей ёсць вельмі шмат тых, хто шукае Бога і, на жаль, шмат тых, хто мае скрыўленае паняцце пра Бога.

**– Што Вы маеце на ўвазе?**

– Для мяне на самым пачатку маёй працы, калі толькі стаў святаром, было шокам чуць ад сваіх падапечных, што гэта Бог іх пакараў, і таму яны не чуюць. Такое пераканане многія з іх атрымалі ў сектах. Я прысвяціў шмат часу, каб давесці ім, што Бог ёсць любоў, што ён іх не пакараў, а палюбіў дарэшты, прыняўшы смерць крыжовую. І доказам праўдзівасці маіх слоў была мая прысутнасць. На сустрэчах яны пыталіся ў мяне: чаму ты сярод нас, чаму ты вывучыў нашу мову? Я ім адказваў: "Таму што Бог вас любіць, і Ён паслаў мяне да вас".

***Я ім адказваў: "Бог вас любіць, і Ён паслаў мяне да вас".***

**– Кс. Валерый, Вы маеце ўнікальную магчымасць параўнаць звычайных вернікаў са сваімі падапечнымі ў Гродне. Ёсць якая-небудзь розніца ў падыходзе да справаў веры і рэлігіі?**

– Канешне, мы ўсе вучымся быць святымі, і я не хачу ідэалізаваць асяроддзе глухіх. Але некаторыя факты гавораць самі за сябе. За пятнаццаць гадоў маёй працы супольнасць глухіх вернікаў у Гродне павялічылася да тысячы чалавек. Уявіце сабе: ні адна пара, якую я павянчаў, не развялася. Яны даражаць тым, што маюць, тым, што падарыў ім Бог.

Хачу таксама адзначыць праўдзівасць і дысцыплінаванасць гэтых людзей. Глухі чалавек вельмі рэдка ідзе на падман, і таму ён сам не любіць падману. З ім трэба быць гранічна шчырым. Аднойчы кажу сваім парафіянам з супольнасці: "У Вербную Нядзелю – свята, і ўсім трэба быць у споведзі". Аглядаюся – усе семдзесят чалавек, што былі ў касцёле, стаяць каля спаведніцы. Да такой арганізаванасці ў звычайных парафіях вернікам далёка.

**– Што б Вы маглі параіць тым, хто сутыкаецца з глухімі людзьмі, – свецкім або духавенству?**

– Калі чалавек толькі глухі і ў астатнім яго здароўе ў норме, то пераважна ён сам справіцца са сваімі заданнямі. Асноўнай патрэбай гэтых людзей ёсць камунікацыя. Разумееце, яны жывуць у вельмі звужаным асяроддзі такіх самых, як яны. Таму чалавек са слыхам, калі рэальна хоча дапамагчы глухому, першае, што павінен зрабіць, – гэта вывучыць жэставую мову. Хаця б сто жэстаў. Я зусім не разумею тых бацькоў, у якіх ёсць глухое дзіця і яны не ведаюць жэставай мовы. Я ім кажу: "Гэта родная мова вашага дзіцяці! Як вы можаце яе не ведаць?! Што, калі б англічанін гаварыў са сваім дзіцём па-нямецку? Ці гэта было б нармальна?.."

Ну, а што датычыцца духавенства, то тут таксама ўсё проста. Святар павінен ведаць сваіх парафіянаў. І калі сярод іх ёсць хтосьці з асаблівасцямі развіцця, то трэба зрабіць усё, каб дапамагчы такому чалавеку сустрэць Бога. Хацелася б, каб ва ўсіх абласных цэнтрах быў душпастыр для глухіх. Пакуль што ў Віцебску, Гомелі і Магілёве гэтага няма.

Развітваючыся, кс. Валерый падзяліўся сваімі планамі наконт арганізацыі Усебеларускай сустрэчы глухіх людзей у 2015 годзе. А пакуль тое, на заўтрашні дзень пасля нашай гутаркі ён са сваімі падначаленымі паехаў у аўтобусную пілігрымку ў Польшчу. "Яны вельмі любяць падарожнічаць", – сказаў ён з усмешкай. Прыязджайце і вы да нас на Усебеларускую сустрэчу."

*клерык – студэнт духоўнай семінарыі

**Для зацікаўленых падаём кантактныя звесткі кс. Валерыя Лісоўскага**

**Адрас:**
вул. Гродзенская, 13
231905 в. Вярэйкі
Ваўкавыскі р-н
Гродзенская вобл.
Тэл.: (8-01512) 7-36-29,
+375296753309

# Успамінаючы Апостала еднасці

*Працяг са стар. 1*

"Таму што тое, што мы бачым у асобе Язафата, гэта тое, да чаго заклікае Папа Францішак. Да таго, каб біскупы, святары выходзілі з храмаў да людзей. Гэтым і займаўся Язафат Кунцэвіч. Можна сказаць, гэта святы па-над часам. Таксама яго словы паўтарыў Ватыканскі сабор: "Супакой – гэта не адсутнасць вайны, а перш за ўсё справядлівасць". Для нас гэта заклік да ўсіх беларусаў, каб ішлі такім шляхам справядлівасці".



На свята прыехаў і Апостальскі візітатар архімандрыт Сяргей Гаек, які маліўся разам з вернікамі і таксама распавёў пра значэнне асобы Язафата Кунцэвіча для грэка-католікаў.

Напрыканцы службы вернікі ўшанавалі памяць памерлых і заспявалі "Многае лета". Скончылася набажэнства маленнем за Бацькаўшчыну і спевам "Магутны Божа". А пасля ўсе прысутныя змаглі наведаць духоўны канцэрт з удзелам гурта "Балцкі субстрат".

## XIV КОНКУРС КАЛЯДНАЙ ПЕСНІ "ЗОРКА БЭТЛЕЕМА" МЁРЫ, 2015

**Парафія ў Мёрах сардэчна запрашае моладзь да ўдзелу ў конкурсе, які адбудзецца 3 студзеня 2015 г.**

**Умовы конкурсу:**

1. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаем дзяцей і моладзь (адказнасць за непаўналетніх бярэ на сябе святар або асоба, якая суправаджае).
2. Ацэнка магчымасцяў удзельнікаў будзе ажыццяўляцца паводле наступных узроставых катэгорый: 10 – 14 гадоў, 15 – 18 гадоў, 19 гадоў.(Журы абавязкова ацэньвае змест песняў, артыстычнасць выканання, знешні выгляд удзельнікаў і г.д.).
3. Прапанаваць сваю творчую працу гледачам і журы могуць:
   а) салісты; б) дуэты; в) музычныя гурты.
4. Усе ўдзельнікі павінны мець пры сабе тэксты і ноты да песняў, якія выконваюцца.
5. Заяўку на ўдзел у конкурсе трэба прыслаць не пазней за 25 снежня. У заяўцы просім падаць як мага больш інфармацыі пра ўдзельнікаў і песні.

**Праграма конкурсу:**

**8.00** – Св. Імша для ўдзельнікаў
**9.00** – Снеданне
**10.00** – Пачатак конкурснай праграмы
**13.30** – Перапынак. Абед
**14.30** – Працяг праграмы.
Падвядзенне вынікаў конкурсу.
Уручэнне ўзнагарод.

P.S. Можна таксама патэлефанаваць і паведаміць пра ўдзел у конкурсе.
(тэл.: 8-02152-41836, факс: 8-02152-49555)

## Сардэчна віншуем!

*У пробашча парафіі св. Станіслава ў Далёкіх 6 лістапада Дзень нараджэння. З гэтай нагоды дасылаем віншаванне і шчырыя пажаданні **ксяндзу Анджэю Бочару**.*

*Хай ад Бога Айца*
*Вам здароўе і сіла даецца,*
*І, як сэрца Езуса,*
*Праменіцца Вашае сэрца.*
*Хай ад Духа Святога*
*Даецца Вам мудрасць і ўменне,*
*А ад Божае Маці –*
*Разважнасць, ласкавасць, цярпенне.*



***Удзячныя парафіяне***

## Ксяндзу Андрэю Куліку з нагоды імянін

*Жадаем нашаму пробашчу моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай Міласэрны Бог атуляе яго патрэбнымі ласкамі на нялёгкім святарскім шляху, па якім ён штодзень ідзе да алтара Пана. Няхай агеньчык, запалены Панам Богам у яго ным сэрцы, гарыць яркім полымем і асвячае яго святарскае жыццё. Няхай Дух Святы ўмацоўвае і павялічвае ўсе яго таленты, мудрасць, шчырасць, дабрыню.*

*Дзякуем Вам, шаноўны ойча, за Вашы малітвы, навуку, сардэчнасць і разуменне.*

***З любоўю і павагай парафіяне касцёла Унебаўшэсця Пана в. Дзеркаўшчына***

# Моўная сітуацыя ў Касцёле

**Апошнім часам у СМІ гучаць заявы дзяржаўных чыноўнікаў рознага рангу пра неабходнасць падтрымкі і развіцця беларускай мовы ў грамадстве. Гэтыя заявы выклікаюць розную рэакцыю ў людзей. "Каталіцкі Веснік" вырашыў пацікавіцца, што думаюць чытачы пра моўную сітуацыю ў Касцёле ў Беларусі?**

*Гутарыла Ірына Грэйць*



**Зміцер Казакевіч:**
– Так ужо адбылося ў маім жыцці, што я прыйшоў да Бога праз мову і беларускае слова. Касцёл, у сваю чаргу, дапамог мне ўбачыць у звычайным слове сакральную глыбіню. Таму для мяне яны непарыўныя – беларускае Слова і Касцёл.

Ці трэба што мяняць? Змяняць трэба заўсёды, бо змяняецца само жыццё і змяняецца мова. Трэба рабіць новыя пераклады Бібліі, падключаць навукоўцаў. Шукаць новыя сэнсы. Знаходзіць новыя формы працы з дзеткамі.

Што да новых моваў у Касцёле, дык мне здаецца, гэта было б добра, бо Касцёл, на маю думку, мае быць адкрыты для любой артыкуляцыі ды акцэнту. Але беларуская павінна быць у цэнтры. Мне быў бы цікавы досвед малітвы на англійскай, ці іспанскай, ці ўкраінскай мовах. А хай сабе нават і на кітайскай. Што датычыцца рускай мовы, дык хочаш не хочаш, а яна і так прысутнічае ў Касцёле. Ведаю людзей, якія, пры ўсёй любові да белмовы, спавядаюцца толькі па-руску. Няма праблемаў.

Дагэтуль ні на сваёй радзіме, на Браслаўшчыне, ні ў Віцебску, дзе цяпер жыву, не сустракаў людзей, якія б сыходзілі са Святой Імшы з той прычыны, што ім незразумела беларускае слова. Тым больш ніколі не чуў прапановаў увесці ў Касцёле рускамоўныя богаслужэнні. У той час, калі нават у некаторых праваслаўных прыходах святары спрабуюць маліцца па-беларуску, такая прапанова падалася б мне глупствам.



**Зміцер Драко:**
– У касцёлах праводзіцца Імша на беларускай і польскай мовах. Польская мова зручная для старэйшага пакалення. Але яна хутка знікне. Цяпер жа для моладзі Імша па-беларуску для таго, каб яны разумелі, што адбываецца, больш пазнавалі Бога, а не проста аўтаматычна адгаворвалі малітвы. Можна паспрачацца: чаму не на рускай мове, мо будзе больш зразумела? Але, я лічу, гэта не так. Узяўшы Біблію на рускай мове, я бачу, што сустракаюцца словы, якіх не ведаю. Для мяне ў Бібліі па-беларуску такія словы рэдкасць. Нават калі ўзяць малітву "Ойча наш". Словы "іже еси на небесех" параўнаем з "каторы ёсць у небе". Беларускі варыянт больш зразумелы.



**Вольга Русакова:**
– Мне вельмі падабаецца, што ў Касцёле ў Беларусі людзі размаўляюць па-беларуску. Напэўна, гэта адзінае месца, дзе я магу пачуць і паразмаўляць на роднай мове. На жаль, большасць людзей нашай краіны ў штодзённасці выкарыстоўвае рускую мову.

Лічу вельмі зручным, што ў некаторых святынях таксама ёсць Імшы і на замежных мовах, напрыклад, на польскай або на англійскай. Гэта патрэбна католікам з іншых краін, якія прыязджаюць у Беларусь. Мне здаецца, што не трэба нічога змяняць, што датычыцца асноўнай мовы ў Касцёле падчас Імшы. У большасці дзякуючы Касцёлу людзі памятаюць і шануюць сваю родную мову.



**Яўгенія Раткевіч:**
– Сітуацыя з мовай у Касцёле вельмі небяспечная, калі гаварыць пра некаторыя дыяцэзіі. Асабліва цяжка ўводзіць беларускую мову ў Гродзенскай дыяцэзіі. Шмат пытанняў паўстае, калі моладзь парафіі хоча праводзіць усё па-беларуску. Я лічу, што ўжо неабходна на пераходзіць на прапорцыі 50:50. Гэта значыць, не толькі адна Імша ў нядзелю на роднай мове, а астатнія па-польску. Хаця б напалову. Але выдатна было б зрабіць толькі адну на польскай мове. Сітуацыя ў іншых дыяцэзіях лепшая. Але таксама праблема з тым, што яшчэ мала духоўнай літаратуры па-беларуску і Біблія таксама выглядае не дастаткова добра, тлумачэнні вельмі недакладныя. Але ўсё ж падаецца, што паволі справа змяняецца да лепшага.



**Таццяна Давыдзік:**
– Лічу вельмі важным, што Касцёл робіць такі пераход на беларускую мову. Неабходна разумець, што адбываецца на Святой Імшы, што азначае кожнае слова, бо ўсе яны напоўнены Духам Святым. Не трэба ўводзіць у карыстанне рускую мову: беларуская мова бліжэйшая да сэрца, яна больш мілагучная. У нашай краіне вучыцца шмат замежных студэнтаў, якія наведваюць касцёл. Для іх больш зразумелай і блізкай з'яўляецца англійская мова. Гэта новы крок у развіцці Касцёла, які будзе збліжаць народ ва ўсім свеце.

## Што вы думаеце пра моўную сітуацыю ў Касцёле ў Беларусі?

**Вынікі анлайн-апытання "Каталіцкага Весніка" у Фэйсбуку, Укантакце, Аднакласніках і на сайце catholicnews.by.**




Мяне задавальняе тое, што ў маёй парафіі ўжываецца пераважна беларуская мова – **101 (58%)**
Лічу, што неабходна пачаць уводзіць літургічныя набажэнствы на рускай мове – **4 (2%)**
Лічу, што руская мова можа ўжывацца толькі як мова евангелізацыі, але ніяк не ў літургіі – **6 (4%)**
Я наогул супраць рускай мовы ў Касцёле – **37 (21%)**
У маёй парафіі пераважаюць набажэнствы на польскай мове і я падтрымліваю гэта – **14 (8%)**
У маёй парафіі пераважаюць набажэнствы на польскай мове і я супраць гэтага – **7 (4%)**
Іншы адказ (у каментарах) – **6 (3%)**

**Прагаласавалі 175 чалавек**

## Што падарыць на Каляды?
















**Калядныя паштоўкі з выявай Святой Сям'і ў Бэтлееме**

10x15 см
Кошт адной паштоўкі –
**5000 рублёў**
Даступна пяць варыянтаў

*Як купіць паштоўкі, чытайце на стар. 8*

Каталіцкі ВЕСНІК №11(44) лістапад 2014 г.

# Ці можна падкрэсліваць у Бібліі ручкай?



*"Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, ці можна падкрэсліваць у Бібліі ручкай або тэкставыдзяляльнікам? І ці можна чытаць Біблію выдання евангельскіх хрысціян-баптыстаў 1968 года?"*
*Алена*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель:**



– Святое Пісанне, або Біблія ў большасці хрысціянскіх канфесій і дэнамінацый аднолькавае. Але канон каталікоў і праваслаўных уключае ў сябе больш кнігаў, чым у пратэстантаў. Выданні баптыстаў любога года чытаць можна. Біблія баптыстаў уключае ў сябе дакладна такія ж тэксты, як і каталіцкая, з той толькі розніцай, што ў Старым Запавеце не будзе другакананічных кнігаў, якія мае каталіцкі канон. Сюды адносяцца, напрыклад, кніга Мудрасці Саламона, кніга Ісуса, сына Сіраха, кнігі Тобіі, Юдыт і інш.

Гэтыя кнігі называюцца другакананічнымі не таму, што яны – канон другога гатунку, але таму, што пытанне аб уключэнні іх у канон Пісання было вырашана пазней, чым гэта было з тымі кнігамі, якія заўсёды і ўсюды лічыліся часткай Пісання (напрыклад, кнігі Быцця, прарока Ісаі, Псалтыр). Пратэстанты з часоў Рэфармацыі выключылі гэтыя кнігі з кананічнай Бібліі па той прычыне, што яны не ўвайшлі ў юдэйскі канон праз адсутнасць тэкстаў на мове арыгінала.

Другакананічныя кнігі Старога Запавету захаваліся цалкам толькі ў перакладзе на грэцкую мову, вядомым як Сэптуагінта, зробленым у III-II ст. да н.э. На мове арыгінала вядомыя толькі іх асобныя ўрыўкі. Аднак гэта абсалютна не дастатковая прычына, каб адмовіцца ад згаданых кнігаў. Ад першых стагоддзяў хрысціянская Царква вызнавала іх боганатхнёнымі, што пацвярджалася таксама на шэрагу Сусветных сабораў.

Адносна падкрэслівання ў Бібліі трэба памятаць, што святым з'яўляецца тэкст Святога Пісання, яго змест, а не сама кніга. Таму падкрэсліванне не будзе знявагай ці абразай Бога, калі мы робім гэта дзеля таго, каб лепш запомніць і зразумець напісанае. Безумоўна, рабіць гэта можна толькі ў сваёй асабістай кнізе.

***...святым з'яўляецца тэкст Святога Пісання, яго змест, а не сама кніга***

# Любоў павінна быць цвёрдай

*"Нядаўна прачытала артыкул пра тое, як місіянеркі з Гомеля раздавалі бясплатныя абеды для бяздомных. Безумоўна, пра такія справы трэба пісаць, каб той, хто пабачыць артыкул, задумаўся, як дапамагчы людзям, якія трапілі ў складаныя жыццёвыя абставіны. Але нешта неспакойна стала пасля таго, як дачытала. Потым зразумела чаму. Мяне здзівіла, што ежу раздавалі толькі тым, хто прыйдзе ў цвярозым стане. А як жа ў гэтай сітуацыі дзейнічае запаведзь аб любові да бліжняга?"*
*Вольга*



**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель:**

– *"Любі бліжняга свайго, як сябе самога"* (Мц. 22, 39). Так гучыць другая частка галоўнай запаведзі любові. Гэтую любоў да бліжняга трэба разумець правільна, не ідучы за хлуслівымі, спрошчанымі ўяўленнямі. Апостал Павел вучыць: *"Хай кожны з нас рупіцца дагаджаць бліжняму на дабро і на збудаванне"* (Рым. 15, ). Вось жа, нашая дабрадзейнасць павінна выходзіць на дабро і на збудаванне. Дабро, пра якое нам трэба дбаць, павінна быць сапраўдным, а не адносным. Калі алкаголік хоча выпіць, то што павінен зрабіць той, хто яго любіць? Купіць яму бутэльку ці адмовіць? Безумоўна, адмовіць! Трэба дбаць пра сапраўднае дабро для чалавека, а не даваць тое, што ён хоча.

**"Любоў павінна быць цвёрдай"**. Нашая дапамога бліжняму павінна быць скіраваная на асновы яго жыцця, а не проста на задавальненне яго патрэбаў у ежы і жыллі. Кінуць жабраку паперку грошай – гэта зусім не дапамога. Сапраўдная дапамога, якую хрысціянін павінен быў бы аказаць, – гэта пацікавіцца яго жыццём і дапамагчы вырашыць тую сітуацыю, якая выставіла яго на вуліцу, або, прынамсі, падбаць пра тое, каб ахвяраваныя грошы не былі выкарыстаныя на дрэнныя мэты.

Адпаведна сёстры, аказваючы канкрэтную дапамогу, адмаўляюць у ежы тым, хто знаходзіцца ў п'яным стане, каб прадэманстраваць прынцыповасць і цвёрдасць сваёй любові да іх. Яны дапамагаюць і тым, каму даюць ежу, і тым, каму адмаўляюць. Тых, каму адмаўляюць, яны пабуджаюць стаць адказнымі за свае паводзіны і адносіны да жыцця. Ніхто не аспрэчыць факт, што п'янства з'яўляецца вялікім злом. Хрысціянін не можа талераваць гэта зло. Таму гэта добры стымул, каб быць цвярозым.

# Вялікі дзякуй святару!

*Ужо 9 гадоў у нашай парафіі працуе **ксёндз Алег Півавар**. Пробашч усе свае сілы накіроўвае на будаўніцтва касцёла, на духоўнае адраджэнне парафіі. Яго высокаадукаванасць дапамагае ўзбагачаць і паглыбляць веру ўсіх парафіянаў. Ксёндз Алег у гэтым годзе паставіў два каталіцкія крыжы: адзін на шляху да Віцебска, другі – у аграгарадку Бабінавічы на месцы былога касцёла.*

*6 лістапада ў нашага паважанага святара Дзень нараджэння. Мы ад усяго сэрца хочам павіншаваць шаноўнага ксяндза Алега, таму што ён на самай справе стаў нашым, бо жыве сярод нас, у нашых сэрцах. Жадаем яму цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства, моцнага здароўя, добразычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу ў будаўніцтве касцёла. Няхай Вашае сэрца, ксёндз Алег, перапаўняе святло нашай любові, якой Вы будзеце дзяліцца з тымі, хто яе патрабуе. Няхай Пан Езус, Якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх руках, прытуліць Вас да Свайго сэрца і блаславіць на доўгія гады на святарскім шляху. Няхай Маці Божая, якая дарučыла ў Вашы рукі Свайго Сына, абараняе Вас мацярынскай любоўю і ахінае сваім нябесным плашчом ад небяспекі.*

*Нізка кланяемся і кажам "вялікі дзякуй" святару мы, парафіяне, за клопат, ласку, сардэчнасць і дабрыню, за малітвы і выкладанне катэхезы, за разуменне, за навучанне любіць Бога і бліжняга, за пабудову касцёла, дзе мы вылечваем нашы душы і сэрцы.*

***Данута Голубева, ад імя ўсіх вернікаў парафіі св. Айца Піа ў г.п. Лёзна***

## Як Касцёл ставіцца да працэдуры перавязкі матачных труб?

***"У маёй сяброўкі і яе мужа трое дзетак, народжаных шляхам кесарава сячэння. На трэцім дзіцяці ёй зрабілі працэдуру, пасля якой яна не зможа зацяжарыць. З медыцынскага пункту погляду можна толькі тры разы рабіць кесарава, хоць ёсць сведчанні і чатырох такіх аперацый у жанчыны. Гэтая сям'я хоча яшчэ дзяцей. Як Касцёл ставіцца да працэдуры перавязкі матачных труб, калі ў жанчыны ёсць 3-4 дзіцяці, народжаныя пры дапамозе кесарава сячэння, і калі гэта неабходна з медыцынскага пункту погляду? Бо гэта з'яўляецца кантрацэпцыяй на ўсё далейшае жыццё".***
*Юлія*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Касцёл адмоўна ставіцца да перавязкі матачных труб. Пра гэта чытаем у энцыкліцы бл. Паўла VI Humanae vitae 14: «Як ужо шматразова Настаўніцкі інстытут Касцёла падкрэсліваў, трэба адкідваць непасрэднае пазбаўленне плоднасці ці то пастаяннае, ці то часовае як у мужчын, так і ў жанчын». У наш час сапраўды даволі часта можна сустрэцца з практыкай хірургічнай стэрылізацыі жанчын. Таму жанчына, ідучы на такі крок, павінна ведаць, якая ацэнка гэтай аперацыі з Божага пункту бачання. І тут можна назваць два кірункі.

***Сама па сабе цяжарнасць не з'яўляецца хваробай, якую б трэба было лячыць стэрылізацыяй ці яшчэ горш – абортам.***

Па-першае, калі жанчына пагаджаецца на стэрылізацыю для таго, каб ужо не мець дзяцей, то на яе сумленні цяжкі грэх. Таму нікому не можна змушаць да стэрылізацыі ці паддавацца ёй, хоць бы нават сітуацыя ў сям'і была з тых ці іншых прычын драматычная. Сама па сабе цяжарнасць не з'яўляецца хваробай, якую б трэба было лячыць стэрылізацыяй ці яшчэ горш – абортам. Цяжарнасць – гэта доказ здароўя і нармальных адносін у сужэнстве. Чаму нельга стэрылізавацца? Бо свядомае жыццё ў граху блакуе чалавека на дзеянне Божай ласкі. Хоць можна мець тысячы апраўданняў, каб пайсці на грэх, але тады чалавек выбірае нейкія часовыя выгады, якія скончацца, а застанецца толькі непакой і разлад у сумленні.

Другое разуменне стэрылізацыі будзе ў выпадку, калі ў жаночым арганізме выкрыта хвароба, якую нельга лячыць інакш, як толькі шляхам выдалення тых органаў, што служаць для апладнення. У дадзеным выпадку мэта стэрылізацыі – лячэнне хваробы. А гэта інтэнцыя не з'яўляецца грахоўнай. Як бачым з вышэйсказанага, стэрылізацыя:

- не ёсць годным людской асобы і любові метадам рэгулявання плоднасці;
- скіравана на знішчэнне магчымасці жанчыны быць цяжарнай, г.зн. яна парушае інтэгральнасць людской асобы;
- з тэалагічнага пункту погляду – гэта бунт супраць Бога як Творцы;
- гэта цяжкі грэх;
- калі ёсць сапраўды грунтоўныя прычыны, каб не зацяжараць, то ў дадзеным выпадку сужэнцы пакліканы карыстацца натуральным метадам рэгулявання плоднасці, г.зн. уступаць у сужэнскую блізасць у няплодныя дні і ўстрымлівацца ад яе ў плодныя.

**Якія вынікі стэрылізацыі ў жанчыны?**

- жаль, што на гэта пагадзілася;
- падсвядомы пошук спосабаў вяртання папярэдняга стану (напр., жаданне ўсынавіць дзяцей і г.д.).

Што рабіць, калі ўжо такое здарылася? Касцёл кожнае сваё дзіця заахвочвае да шчырага навяртання праз практыку посту, малітвы, міласціны і плённага карыстання святымі сакрамантамі і духоўным кіраўніцтвам.

# Каляндар на снежань

**У снежні Касцёл перажывае перыяд Адвэнту – радаснага чакання Божага Нараджэння.**

**На гэты месяц прыпадаюць наступныя святы і ўспаміны:**

**6 снежня – Успамін святога Мікалая**

Святы Мікалай жыў у III ст. у Малой Азіі. Быў біскупам Міры (сучасная Турцыя).

Найбольшую славу святому прынеслі яго незвычайная дабрыня і гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу бліжнім. Паводле падання, аднойчы Мікалай паціху падкінуў грошы тром маладым дзяўчатам, якіх збяднелы бацька хацеў аддаць у публічны дом, каб яны не памерлі з голаду. Дзякуючы дапамозе біскупа дзяўчатам удалося захаваць чыстасць і добра выйсці замуж. Мікалай вызваліў трох юнакоў, якіх гаспадар заезду, дзе тыя спыніліся, хацеў забіць і закатаць у бочку. Ён таксама дапамог уратавацца маракам, якія гінулі на моры.

Пасля смерці Мікалая яго рэліквіі захоўваліся ў Міры Лікійскай, пакуль у 1087 г. не былі выкрадзены італьянскімі купцамі і вывезены ў г. Бары на Поўдні Італіі. Святы Мікалай з'яўляецца адным з найбольш папулярных святых на Захадзе, а на Усходзе яго ўшаноўваюць другім пасля Багародзіцы. Мікалая часта называюць цудатворцам і лічаць вялікім сябрам дзяцей, апекуном шчаслівых сужэнстваў, вязняў і маракоў. Святы Мікалай з'яўляецца апекуном Расіі, а на Захадзе ён стаў правобразам славутага Санта-Клаўса. У многіх каталіцкіх краінах існуе звычай у гэты дзень рабіць дзецям падарункі.

**8 снежня – свята Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята Беззаганнага Зачацця адзначалася на Ўсходзе ўжо ў VIII стагоддзі. У IX стагоддзі перайшло і на Захад. На беларускай зямлі гэтае свята пачало адзначацца з XIV стагоддзя. 8 снежня 1854 года Папа Пій IX сцісла акрэсліў і падаў праўду аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі як дагмат каталіцкай веры. Гэта свята лічыцца абавязковым.

**25 снежня – Божае Нараджэнне.**

Вігілійную вячэру, якая распачынаецца пасля дзялення аплаткай, называюць куццёю (ад назвы крупяной кашы – куцці, якая абавязкова павінна быць у гэты вечар на стале). На стол ставяць толькі посныя стравы. У гэты дзень з радасцю прымаюцца і нечаканыя госці.

Асаблівую атмасферу гэтага вечара ствараюць і калядкі (песні на Божае Нараджэнне), якія можна таксама спяваць усёй сям'ёй. Кульмінацыяй вечара становіцца святая Імша ў вігілію Божага Нараджэння. У само свята, 25 снежня, уся сям'я, родныя і блізкія таксама збіраюцца за супольным сталом. Але ж галоўнае – загадзя паклапаціцца пра стан сваёй душы і быць духоўна падрыхтаваным да святаў. З гэтай мэтай у перыяд Адвэнту Касцёл заахвочвае браць пастановы, у парафіях таксама адбываюцца адвэнтовыя рэкалекцыі з магчымасцю прыступіць да сакраманту споведзі.

**26 снежня – успамін святога Стэфана-першамучаніка.**

Святы Стэфан быў адным з сямі памочнікаў Апосталаў у Ерусалімскім Касцёле. Паводле Дзеяў Апостальскіх, "поўны ласкі і моцы Духа Святога" абвяшчаў Добрую Навіну з мудрасцю, якой ніхто не мог супрацьстаяць. Першы мучанік, сведчачы сваёй смерцю аб праўдзівасці пасланніцтва Хрыста і Яго навукі, ажыццявіў ідэал дасканалага наследавання Пана. Існуе вялікае падабенства паміж смерцю Пана Езуса і Святога Стэфана: фальшывыя сведкі, смерць за горадам, адданне Езуса і Стэфана Богу Айцу, прабачэнне пераследавальнікам. Культ гэтага святога бярэ свой пачатак з IV стагоддзя.

**27 снежня – свята святога Яна, апостала.**

Рыбак, быў любімым вучнем Езуса. Стаў сведкам перамянення Пана і Яго малітвы ў Садзе Аліўным. Падчас Апошняй Вячэры туліўся да грудзей Збаўцы. Паміраючы на крыжы, Пан Езус аддаў яму ў апеку сваю Маці. Ён – адзіны з Апосталаў, хто памёр сваёй смерцю каля 100-га г. З'яўляецца аўтарам Евангелля, трох Лістоў, а таксама Апакаліпсіса. Сваім Евангеллем святы Ян дапаўняе іншыя і найбольш глыбока перадае Божыя таямніцы. Ва Усходнім Касцёле св. Яну надалі тытул Тэолага. У хрысціянскай іканаграфіі сімвалам св. Яна з'яўляецца арол.

Адно з паданняў кажа, што св. апостал Ян выпіў атручанае віно, якое, аднак, не зашкодзіла. На ўспамін гэтага цуду ў касцёлах асвячаюць віно.

**28 снежня – свята Святой Сям'і.**

Святая Сям'я з'яўляецца найдасканалай сям'ёй і прыкладам для нас, нашых сем'яў. Св. Юзаф – дасканалы прыклад для айцоў: працавіты, разважлівы, заклапочаны домам. Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца ідэалам найлепшай маці. А Езус – непараўнальны Сын, Які, будучы Богам, быў паслухмяны Бацькам і шанаваў кожнае Іх слова.

На 28 снежня таксама прыпадае ўспамін Святых немаўлят-мучанікаў. Урачыстаць гэтая адзначаецца ў гонар нявінных дзяцей, забітых у Бэтлееме па загадзе Ірада, яўрэйскага караля. Здарэнне апісана ў Евангеллі (Мц 2, 13-18).

*Паважаныя чытачы! Жадаем усім вам добрага і плённага Адвэнту. Каб вы падрыхтавалі не толькі свае дамы і кватэры да свята, але і самі змаглі падрыхтавацца духоўна, змяніць штосьці ў сваім жыцці, каб радасць Божага Нараджэння была сапраўднай і поўнай.*

***Падрыхтавала***
***Марына Ткач***

## Віншуем!

*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*У кастрычніку 2012 года ў парафію святога Яна Хрысціцеля прыехаў айцец Андрэй Зуй OFMCap. Айцец Андрэй – малады святар, але ён глыбока разумее духоўныя і матэрыяльныя патрэбы людзей. Святар адразу спадабаўся ўсім парафіянам. Бо ён вельмі адказны і працалюбівы. Шмат цяжкасцяў і складаных момантаў выпадае пры выкананні рамонтных работ у нашым касцёле. Але дзякуючы настойлівасці і вялікаму жаданню ствараць прыгожае за гэты час вельмі шмат зроблена. Мы хочам падзякаваць а. Андрэю за нядаўна ўстаноўлены пры касцёле вельмі прыгожы крыж, за прыгажосць і святло ў нашай святыні.*

*3 лістапада ў нашага а. Андрэя Дзень нараджэння, а 30 лістапада – імяніны. Жадаем яму радасці, зямнога шчасця, моцнага здароўя. Няхай Усемагутны Божа ніколі яго не пакідае, а Маці Божая атуліць сваёй апекай на доўгія гады святарскага служэння. Дзякуем нашаму пробашчу за нястомную і вельмі патрэбную працу, за самаахвярнасць і дабрыню.*

*Мы Вас любім, шаноўны айцец Андрэй!*

*Парафіяне касцёла*
*св. Яна Хрысціцеля*
*ў в. Ваўкалаты*
*Докшыцкага раёна*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**23 лістапада 2014 г. Мц 25, 31-46**

Прыняць Езуса Панам і Валадаром свайго жыцця – гэта значыць прызнаць, што Ён валадарыць ува мне. Яго Валадарства – гэта Валадарства любові і дабра. Любові вельмі канкрэтнай. Трэба любіць Езуса ўсім сэрцам. Гэта любоў падштурхне нас да таго, каб любіць іншых, бо Езус і любое Яго дзіця – адно. Трэба любіць Яго ў галодных, слабых і тых, хто мае патрэбу. Асабліва ў тых, хто патрабуе эмацыянальна і духоўна.

*– Якое Валадарства пануе ў тваім сэрцы? Ці Валадарства Езуса?*

*– Ці кіруе маім жыццём закон любові?*

*– Ці служу свайму Пану, Які жыве ў найменшых?*

*– Якія ўчынкі любові я раблю?*

*– Ці люблю сваіх блізкіх і тых, каго я абавязаны любіць?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Што трэба зрабіць, каб любіць лепш?*

*– Якія праблемы я павінен вырашыць?*

*– Ці бачу Езуса ў бедных і зраненых?*

*– Ці бачу бяду пакрыўджаных эмацыянальна?*

*– Ці разумею няшчасце тых, хто не ведае Бога?*

*– Што раблю, каб ім дапамагчы?*

**30 лістапада 2014 г. Мк 13, 33-37**

Чуваць – гэта значыць сцерагчы любоў. Чуваць – гэта сачыць, каб жыццё ішло згодна з правам любові. Чуванне – гэта вернасць пакліканню да любові. Чуванне – гэта падрыхтоўка да смерці і да канца свету. Калі б гэта ні адбылося, я сустрэну такую хвіліну ў любові. Адвэнт – час чакання поўнай любові. Гэта час падрыхтоўкі да канца свету і да ўласнай смерці.

*– Ці не ўсыпляем сваёй любові?*

*– Ці буджу самога сябе праз споведзь, рахунак сумлення?*

*– На чым засноўваю сваю надзею на будучыню: на грашах ці ўплывовасці?*

*– Ці памятаю, што вазьму з сабой пасля смерці толькі добрыя ўчынкі, якія я зрабіў?*

*– Ці рыхтуюся да ўласнай смерці?*

*– Ці клапачуся, каб не сустрэцца са смерцю ў стане смяротнага грэху, калі я не ў знаходжуся ў еднасці з Хрыстом?*

*– Калі б я сёння памёр, то ці пайшоў бы на неба?*

**7 снежня 2014 г. Мк 1, 1-8**

Бог нас вядзе. Ён пасылае да нас сваіх анёлаў і прарокаў. Заклікае, каб мы пакінулі дарогу грэху, бо яна няроўная і перашкаджае прыняць Езуса да сэрца. Ён кліча нас да навяртання. Каб мы пакінулі дарогу нянавісці да Бога, да бліжняга і да сябе. Трэба падрыхтаваць і адкрыць сваё сэрца Езусу, каб Бог зрабіў у нас сабе памяшканне і асвяціў нас сваёй прысутнасцю.

*– Ці слухаю Божыя натхненні, у якіх Бог гаворыць да майго сэрца?*

*– Ці слухаю людзей, якіх Бог пасылае мне, каб я навярнуўся?*

*– Ці слухаю навуку Касцёла з належнай пашанай?*

*– Ці хачу пакінуць грэх, які забівае мяне і маю любоў?*

*– Ці змагаюся з ім у самім сабе?*

*– Ці праз тое, што адкідаю нянавісць грэху, рыхтую сэрца для Езуса?*

*– Ці цаню прысутнасць Езуса ўва мне?*

*– Ці дазваляю Богу распальваць маё сэрца?*

**14 снежня 2014 г. Ян 1, 6-8; 19-28**

Езус – святло нашага жыцця. Ён сярод нас і ў нас. Ён прыносіць Нябеснае Царства і кліча нас да ўдзелу ў ім. Марыя, анёлы, Касцёл і ўсе святыя паказваюць на Езуса – Сонца і Крыніцу Святла. Мы павінны з'яўляцца люстэркам або месяцам, які адлюстроўвае святло Божай справы. Ніхто з людзей сам па сабе не можа быць крыніцай святла. Божы чалавек не засланяе сабой Бога, не робіць цень.

*– Ці Езус ёсць Святло майго жыцця?*

*– А можа, гэта я хачу свяціць, а Езуса выкарыстоўваю, каб аб'явіць сябе свету?*

*– Ці прашу Яго, каб рассвятліў усю цемру і ўсе праблемы майго жыцця?*

*– Ці ў Яго шукаю мудрасці, калі прымаю рашэнні?*

*– Ці паказваю сваім жыццём іншым людзям Езуса?*

*– Ці адлюстроўваецца ў маіх вачах, маёй усмешцы, маёй дабрыні Божая дабрыня да людзей?*

*– Ці абаграваюць праз мае ўчынкі промні Божай дабрыні сэрцы людзей, далёкіх ад Бога?*

*– Ці бачаць людзі ўва мне Езуса?*

*– Ці хочуць жыць так, як я, гэта значыць, блізка да Езуса?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Што падарыць на Каляды?

## Спасите! Мой муж пьёт!




*о. Винфрид Вермтер*

60 000

Книга адресована людям, зависимым от алкоголя, а также тем, кто страдают рядом с ними. Как помочь близкому человеку, страдающему зависимостью от алкоголя? Как помочь самому себе, когда постоянно рядом человек, больной алкоголизмом? Об этом говорит данная книга.

## О подражании Христу




*Фома Кемпийский*

49 000

В этой книге, которая издавалась неисчислимое количество раз и почти на всех языках, автор стремиться сделать духовную жизнь доступной каждому: Христос – образец святости, а духовное развитие каждого – становится похожими на Него своими мыслями, чувствами, желаниями, словами и делами.

## Поверьте в конец света!




*Первые христиане ждали с терпением и героической верой, но Иисус так и не пришел. Верит ли сегодня кто-нибудь в Его второе пришествие? Что может дать христианам такая вера?*

*Эта книга, как говорил о. Иоахим Бадэни, является плодом повеления, которое он получил от Бога. Услышал он его в мае 2009 года во время Святой Мессы. Мы беседовали о втором пришествии Христа несколько месяцев, почти до последних дней его жизни. Первые разговоры вызывали у меня бунт, протест и любопытство. Последние пробудили веру.*

***Юдита Сырэк***

39 000

*О. Иоахим Бадэни ОР*
*Идита Сырэк*

*Две тысячи лет тому назад Господь обещал верующим в Него, что вновь придет во славе и уже навсегда останется с ними.*

## Руководство к благочестивой жизни




*Св. Франциск Сальский*

49 000

Это самая известная книга св. Франциска Сальского (1567 – 1622) стала плодом многолетней душепастырской практики Женевского епископа. Книга предназначена для людей, живущих в миру, но желающих жить полнотой веры и любви к Богу и ближнему. Книга оказала огромное влияние на католическую духовность.

## Слуга прокажённых. Повесть о св. Дамиане де Вёстере




*Вильгельм Хюнерманн*

69 000

Книга «Слуга прокажённых» повествует о жизни и героическом подвиге Дамиана де Вёстера, миссионера Конгрегации Святейших Сердец Иисуса и Марии. Этот священник в 1873 году добровольно прибыл на остров Молокаи, на котором находилась колония, куда со всех Гавайских островов принудительно ссылали больных проказой. О. Дамиан столкнулся здесь с огромной духовной и материальной нищетой прокажённых. Он самоотверженно заботился о больных, построил для них церковь, дома, организовал больницу, приюты для сирот, доставал необходимые продукты и медикаменты, но прежде всего давал им Бога. В 1884 году о. Дамиан сам заразился проказой, однако не покинул колонию и продолжил заботиться о своих подопечных до самой смерти в 1889 году.

11 октября 2009 года Бенедикт XVI причислил о. Дамиана де Вёстера к лику святых.

## Победивший дьявола




*Вильгельм Хюнерманн*

39 000

Увлекательная история жизни одного из самых известных святых католической Церкви, приходского священника из маленькой деревушки Арс во Франции – св. Жана-Марии Вианнея.

## 33 молитвы




*О. Джеймс Манджакал*

49 000

В молитвеннике приведены 33 молитвы в различных нуждах. Вот некоторые из них. Молитва принятия Иисуса как Господа. Молитва о получении работы. Молитва о внутреннем исцелении. Молитва о защите для нерожденных детей. Молитва о разрыве родовых проклятий. Молитва о физическом исцелении. Молитва об освобождении от злого духа.

## Як зрабіць заказ?

Кнігі з рубрыкі "Газетная кнігарня", а таксама рэлігійную атрыбутыку можна заказаць, патэлефанаваўшы ў рэдакцыю па нумары **+375297365307**. **Неабходна будзе паведаміць адрас свайго пражывання і выбраны тавар. Можна таксама даслаць ліст у рэдакцыю, дзе трэба напісаць свой адрас, нумар тэлефона, а таксама найменне і колькасць тавару.**

Выбраны тавар будзе дасланы поштай накладзеным плацяжом. **Пакупніку трэба будзе заплаціць за тавар і паштовыя выдаткі па перасылцы.**

Дарагія сябры, набываючы рэлігійную атрыбутыку і кнігі праз газету "Каталіцкі Веснік", вы дапамагаеце развіццю каталіцкай прэсы ў Беларусі!

**Увага! Спяшайцеся набыць кнігі праз рубрыку "Газетная кнігарня". Іх колькасць абмежаваная!**

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## Также можно заказать книги:

**Исцеление к новой жизни.** О. Джеймс Манджакал. 59000 р.
**Будь мужчиной!** о. Ларри Ричардс 59000 р.
**Чувствам недоступен, для очей незрим** 29000 р.
**Новый Завет** 59000 р.
**Ты – образ Божий.** о. Джон Башобора 69000 р.
**Бог дал мне второй шанс.** Глория Поло 29000 р.
**Ко мне пришли свидетели Иеговы.** о. Анри Мартен 39000 р.
**Дзённік святой Фаўстыны** 149000 р.



**Анёлак у малітве**
Вышыня 18 см
**79000 р.**
Даступныя колеры: сіні, зялёны, чырвоны, серабрысты



**Анёлак**
Вышыня 6 см
**25000 р.**
Даступныя колеры: ружовы, зялёны, бардовы, сіні



**Анёлкі з мішкамі і вавёркамі**
Вышыня 20 см
**79000 р.**



**Анёлкі для хлопчыкаў і дзяўчынак**
Вышыня 5 см
**29000 р.**



**Свечка-ялінка**
Вышыня 11 см
Свечка на калядны і навагодні стол.
**19000 р.**

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 8086
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3300 экз. Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 19.11.2014 г. у 00.24
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621
Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ